# Дзяўчыны і лес

Па-рознаму праводзіла **канікулы моладзь сярэдніх школ.** Адны адпачывалі ў маладзёжных лагерах, над азёрамі, іншыя вандравалі, знаёмячыся з найпрыгажэйшымі куткамі нашай радзімы, яшчэ іншыя спалучалі адпачынак з падрыхтоўкай да працы ў школьных арганізацыях у наступаючым школьным годзе.

Дваццаць чатыры дзяўчыны з Ліцэя медсясцёр у Беластоку, пастанавілі правесці два тыдні канікулаў у лясным гуфцы працы ОГП. Працаваць дзяўчатам прыпала ў надлясніцтве Пухувак у Алецкім павеце.



*Пасля адпачынку — да працы.*

Чэрвеньскі душны дзень. Едзем лясной выбоістай дарогай. Перад намі адно лес. — Ці часам не заблудзіліся? — раздумваем. Не, відаць палянка, будынак леснічоўкі, а побач аранжавыя і жоўтыя палаткі. Паварочваем туды.

На месцы сустракае нас камендант ОГП Крыстына Дундзіла. Атрымліваем першыя інфармацыі аб гуфцы. Дзяўчаты працуюць пры «перацінцы» лесу. У іх планах 36 гектараў лесу. У сярэднім зарабляюць 60—70 зл. у дзень. Працуюць таксама ў нядзелю, бо дажджлівая пагода спыняла працу ў буднія дні.



*Наймілейшая пара — абед на свежым паветры.*

Едзем на месца працы. Адгэтуль каля трох кіламетраў дарогі. Бярэм з сабой праваднікa — вучаніцу, якая прыйшла сюды, каб паказаць дарогу, кудою везці каву. Перад нашымі вачыма замільгалі групкі дзяўчат. Гэта быў перапынак у працы на другое снеданне. Убачыўшы нас, частка дзяўчат кінулася бегчы, каб хутчэй данесці канэўку з каваю. Падыходзім бліжэй, вітаемся. Дзяўчаты ў рабочых камбінезонах, гумовых ботах, з мазалямі на руках устаюць і спяваюць прывітальную песню.

Чаму дзяўчаты ў камбінезонах, вельмі ж горача? Проста з той прычыны, што ў лесе інакш працаваць нельга. Праз момант, пасля кароткага адпачынку дзяўчаты з цесакамі зноў пайшлі ў лес. Хочуць перавыканаць план, хаця праца іх вельмі цяжкая, а тым больш як на дзяўчат. Ды і горача ім вельмі.

Кароткая гутарка з кіраўніцтвам гуфца — настаўнікамі ліцэя. Адназначна сцвярджаюць, што дзяўчаты працуюць вельмі цяжка і самааддана. Гавораць, што іменна тут упаўне пазнаюць сваіх выхаванак.

І магло б здавацца, што пасля такой працы дзяўчаты здольныя толькі да адпачынку. Фактычна, прыйшоўшы з працы і паабедаўшы, дзяўчаты просяць толькі адпачынку. Але гэта толькі на дзве-тры гадзіны. Потым пачынаюцца гульні, дзяўчаты рэдагуюць газету «Пухувэк», вядуць хроніку, арганізуюць кастры-вечарыны, дыскутуюць, напрыклад, на што выдаць заробленыя грошы, сустракаюцца з цікавымі людзьмі.

Развітваемся. У Пухуўку застаюцца дзяўчаты і лес, дзяўчаты, якія сваёй працай пераконваюць кожнага, што маладое пакаленне ўмее вучыцца, гуляць і салідна працаваць.

*А. Карпюк*
*Фота аўтара*



*Пачалася цяжкая праца.*



*У Ніны Пракопчык, нягледзячы на стомленасць, усмешка на твары.*



*Перапынак ад працы. Час адпачыць, з'есці бутэрброд і напіцца.*



*Ірына Макарэвіч і Ґражына Рагоўская ў свабодны час дэкаруюць перад сваёй палаткай.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА

## Сезон экскурсіі

Шмат працы ў гэтыя дні ў Навагрудскім раённым экскурсійным бюро. Штодзень у горад прыбывае па 10 і больш экскурсій. Адны знаёмяцца з домам-музеем Адама Міцкевіча, іншых прыцягваюць археалагічныя раскопкі, трэціх — сучасны горад.

Толькі за апошні тыдзень дом-музей Адама Міцкевіча наведалі госці з Польскай Народнай Рэспублікі, удзельнікі ўсесаюзнай нарады работнікаў хімічнай прамысловасці, якая адбывалася на бярозаўскім шклозаводзе «Нёман», дзесяткі экскурсій з Літвы, Украіны, з Мінскай і Брэсцкай вобласцей. Наведвальнікаў прыцягваюць новыя экспанаты дома-музея, якія папоўнілі аднаўленую экспазіцыю: цудоўна выкананы макет домікаў у Завоссі, дзе нарадзіўся паэт, старая мэбля таго часу, якую перадала нядаўна ў дар музею жыхарка Мінска і г.д.

*І. Казачонак*

## Навасёлы заапарка

У гродзенскім заапарку больш 160 відаў звяроў, птушак і рыб. Сярод іх можна ўбачыць індыйскага слана з мянушкай Суррак, прывезенага з Лейпцыгскага заапарка, мядзведзяў, чорных пантэр, ільвоў, тыграў, кракадзілаў, малп, шмат птушак і рыб.

Штогод заапарк наведвае больш 150 тысяч экскурсантаў, не лічачы дзяцей дашкольнага ўзросту.

Заапарк атрымлівае ад насельніцтва шмат падарункаў. Так, у мінулым годзе былі перададзены дзве казулі, лось з мянушкай Міша, два аслы, малпа макака-рэзус, куніцы, зайцы бяляк і русак, белкі, чарапахі, восем відаў птушак мясцовай фауны, а таксама акварыумныя рыбкі.

Заапарк папоўніўся новымі відамі жывёлы. Ёсць хутканогая жывёла кулан, якая захавалася ў сучасны момант толькі на самым поўдні Туркменіі, у прымыкаючых да яе вобласцях Ірана, у Афганістане і Кітаі; жыхар толькі заапаркаў і некаторых паркаў — алень Давіда (у дзікім выглядзе ён не захаваўся), зоркавая чарапаха — адна з самых прыгожых на зямлі чарапах, жывучых у Індыі і на Цэйлоне.

*«Гродзенская Праўда»*

РОДНЫ КУТ

## Далечыні Крыншчыны

На Крыншчыне няма: ні рэдкіх птушак, ні незвычайных звяроў, не лічачы нядаўняй пары зуброў у навакольнай пушчы.

Затое мае Крыншчына цудоўнае хараство краявіду: далёкія вёскі, быццам зялёныя выспы, на паднебных хвалях пагоркаў, названых «гарамі». А на поўдні — уздыбленая пушча; яна ірдзее меднымі грабянямі сасновых бароў. Да яе падпаўзаюць гасцінцы, пыліць даўні каралеўскі шлях на Каралёвае стойла і Каралёў мост.

Нас двух: я і Славак, сын.

Сёмая гадзіна раніцы. Едзем аўтобусам з Крынак у Крушыняны. Аўтобус збягае ўніз, да маста на Крынцы, пакрай тоўстасценных руінаў былога уніяцкага манастыра з XVII ст. Дарога праз Лапіцкія хутары, што прыгняздзіліся пад ціхімі страмізнамі з буйнымі маладнякамі. У вярстовай даліне блішчыць холадам крынічная Нятупа, а над ёю дажывае свае дні водны млын.

У Крушынянах аўтобус спыняецца непадалёку татарскай мячэці. Асколак блакітнага Крыму ў паўночных бярозах! Высіцца ў полі старымі дрэвамі татарскі могільнік. Стэпавая маладзечына спачывае пасярод каласістага прастору ніваў. У пісьманосца купляем паштоўкі з відам мячэці, Славак — чатыры, у яго больш сяброў. Высылаем.

Намячаем маршрут: з Крушынянаў будзем вяртацца ў Крынкі цэлы дзень, пехатою. Цераз Саннікі, Нетупу — вёску, Лішчаную, Грыбоўшчыну, Плебаноўшчыну. Мяжою заполля і пушчы.

Першы адпачынак, на вялізным камені - валуне, над лугамі ля Саннікаў. Гэтай маленькай вёсачцы стукнула больш, чым чатырыста гадоў. У старым лесе кукуе зязюля.

Апоўдні мочым ногі ў празрыстай Нетупе — рэчцы. Прапахлыя сенакосамі, ныраем у ялінавыя сцяжкі, прытрымліваючыся паўночна-заходняга напрамку. Ручаіны, васількі азерцаў, цішыня. Наперадзе заспяваў адурэлы певень і мы здагадаліся: ў Лішчаной! Выйшлі ў высокія травы; у цяньку ляшчыны нехта кляпаў касу.

Доўга паліваліся вадою ля калодзежа ў прывулічным гушчары. Смяяліся мальвы-харашуні пад — усяго цікавым — вакном хаты ў ліпах. А далінаю ішло лета.

Да Грыбоўшчыны блізка.

На глухіх Грыбоўшчынскіх могілках мы ўглядваліся ў надпісы на помніках: Жукоўскі, Пракопчык, Бурса... Загінулі за народную ўладу. Славак нарваў палявых кветак. Зрабілася ўрачыста.

Недзе па-над Каралёвым стойлам загрымела, хмара чарнела з Перацёскага ўрочышча. Пайшла бокам, ударыўшы па нас шрапнеллю вялізных кропель, густа. Кананада пяруноў: залп за залпам.

Поўныя рэха, адвячоркам, прыпыніліся над ярамі Плебаноўшчыны: навокал засыпала далечыня. Пад намі, у хутарах, вячэралі. Дымы з камінoў падымаліся прасцюсенька ў залацістае — ад заходу сонца — неба. На пагоду.

Зыходзілі мы ў Крынкі па паўднёвым схіле, да першых крыніц сцюдзёнай Крынкі — рэчкі. За дрыгвою, на ўзвышшы — мястэчка.

Уночы прыснілася высокая, сіняя далечыня.

*Сакрат Яновіч*

КУПАЛІЯНА

# Цёця Уладзя

*Успаміны брата Вінцука Станкевіча аб Уладзіславе Станкевіч, жонцы Янкі Купалы.*

## ДЗІЦЯЧЫЯ ГАДЫ.

Бацькаўшчына наша — гэта край, пра які пісаў у сваіх творах Янка Купала:

«Я бачу свой край, поле, рэчку
і бор,
Сваю матку-зямлю Беларусь...»

Бацька наш Францішак Станкевіч, сын дробнага арандатара з Навагрудка, скончыў лясны тэхнікум і працаваў ляснічым у Вішнеўскай эканоміі на Навагрудчыне. На нейкай вечарынцы ў Навагрудку ён пазнаёміўся з настаўніцай — французжанкай удавой Эміліяй Манет, з якой ажаніўся. Удава мела тады шасцігадовую дачку Марыю.

Бацькі нашы жылі ў вялікай згодзе і пашане, хаця іх характары былі не зусім аднолькавыя. Бацька быў чалавекам спакойным, любіў натуру, паляванні. Матка ж была сапраўднай дачкой Францыі, вясёлая, шчабятлівая, любіла вельмі дзяцей, кампанію і была добрай хатняй гаспадыняй.

Бацькі жылі 7 гадоў у Вішневе, а пасля ў фальварку ляснічага ў Каралінаве каля Вішнева.

Я нарадзіўся ў Вішневе ў 1886 годзе, сястра Уладзіслава таксама ў Вішневе 27 чэрвеня 1891 года.

Бацькі нашы былі абое сацыялістамі і, хаця ў хаце гаварылі папольску, зналі добра беларускую мову, на якой гутарылі з ляснікамі, з іх сем'ямі. З беларускай мовай мы, дзеці, былі знаёмы ад самага маленства і любілі слухаць беларускія песні і вершы, якіх вучыліся мы ад вясковых дзяцей.

Уладзя па матцы была вельмі вясёлай, жвавай, любіла гульні з дзецьмі, якія грамадой прыходзілі з вёсак, каб пагуляць з Уладзяй. Кожны дзень, ад раніцы да вечара, у нашым доме было поўна дзетвары. Уладзя прыдумвала штораз іншыя гульні і сама ствapала розныя казкі і прыказкі для сваіх сяброў.

У той час да маіх бацькоў часта прыязджаў з суседняга фальварка Кушляны Францішак Багушэвіч, які пісаў па-беларуску пад псеўданімам «Мацей Бурачок» і сябраваў з маімі бацькамі. Ён часта чытаў нам свае творы, і Уладзя вучала яго вершы на памяць.

Таксама часта ў хаце нашых бацькоў у Каралінаве бывалі розныя рэвалюцыянеры, якія праследваліся царскімі жандарамі і хаваліся ад арышту ў лясах, дзе бацька быў ляснічым. Матка дапамагала ім, давала ім ежу і вопратку. Памятаю, раз прыйшоў і на свіронку начаваў малады чалавек з бародкай, якога бацька даручыў мне правесці на плыты на рацэ Беразінцы і перадаць яго флісакам, каб тайна перавезлі ў Кенігсберг. Адтуль ён мог уцячы заграніцу. Гэта быў сын знаёмага маіх бацькоў з-пад Ашмянаў Фелікс Дзяржынскі, які пасля адыграў вялікую ролю ў рэвалюцыі.



*Жонка Янкі Купалы — цёця Уладзя (1925 г.).*

Да школы падрыхтоўваў Уладзю звольнены з Віленскай гімназіі прафесар Сальмановіч, сацыяліст, які прывіў Уладзі сацыялістычныя ідэі. Вучылася Уладзя ў Вільні, жыла там на кватэры бацькавай сястры, якая імкнулася выхоўваць Уладзю ў рэлігійным духу, аднак дарэмна. Уладзя аніяк не паддавалася гэтай навуцы. Памятаю, што цётка ніколі не прымусіла яе адпаведна гаварыць пацеры, заўсёды замест сказаць, напрыклад, «I nie wódź nas na pokuszenie», Уладзя гаварыла «I nie wódź nas po kieszeniach». А раз яна расказала цётцы анекдот пра хлопца, якога матка падрыхтоўвала да споведзі, а ён не мог зразумець, што бог ёсць адзін у трох асобах. Дык матка яму кажа: «Вот у цябе рубашка адна, а тры гузікі, дык помні, гэта бог ацец, другі гузік — сын божы, а трэці — бог дух святы». Хлопчык кажа: «Добра, матуля, буду памятаць». А калі яго ксёндз запытаў, колькі ёсць багоў, хлопчык адказаў, што адзін. Ксёндз пытаецца, колькі ёсць асоб божых, дык хлопчык адказвае, што тры. А як завуцца? Хлопчык бярэцца за гузік і кажа: «Бог ацец, сын божы, а духа святога матуля прышыла да портак». Цётка махнула рукой на рэлігійную адукацыю Уладзі.

Яшчэ ў Каралінаве Уладзя пазнаёмілася з Канстанцыяй Буйла, бацька якой служыў аб'ездчыкам у тых жа лясах, дзе і наш бацька. Гэтая дружба Уладзі з Канстанцыяй Буйла працягвалася да канца яе жыцця. У Вільні яны хадзілі разам у пачатковую школу, а потым у настаўніцкую семінарыю. Калі скончылі вучобу, таксама працавалі разам у дзіцячым прыюце і ў беларускай школе ў Вільні.

*(Заканчэнне ў наступным нумары).*



*Янка Купала (1900 г.).*

КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

## НЕ ТОЛЬКІ КАПУСНЯК

З капусцянай гародніны агульнавядомая белая капуста, чырвоная, валошская, брусельска. Крыху менш вядомыя шпараговая капуста альбо цвятная капуста (калафёр). Агульнай і галоўнай рысай гэтай гародніны з'яўляецца тое, што капуста вельмі багатая вапнай, фосфарам, жалезам, вітамінамі з групы В і, што найбольш каштоўнае, вітамінам С. Практычна беручы, менавіта капуста з'яўляецца найлепшай крыніцай гэтага вітаміну, паколькі капусту ў нас спажываюць паўсямесна. Часта аднак здараецца, што, неадпаведна падрыхтоўваючы страву, мы знішчаем у ёй усё найбольш каштоўнае, пакуль капуста яшчэ апынецца на стале.

Як падрыхтоўваць страву з капусты? Капусту белую, валошскую, чырвоную можна спажываць у сырым стане. Таму менавіта неабходна як найчасцей падрыхтоўваць з яе розныя салаты. Салаты будуць тады найбольш карысныя, калі капусту шаткуюць адразу ж перад падачай на стол нержавеючым нажом. Пашаткаваўшы капусту, неабходна яе адразу заквасіць, заправіць па смаку і вымяшаць са смятанай альбо алеем. Заквашваць капусту найлепш натуральнымі квасамі, напрыклад з кіслых яблыкаў, кіслых агуркоў, журавін, або разведзенай у вадзе лімоннай кіслатой.

Розныя дадаткі даюць магчымасць з той самай капусты падрыхтаваць шматлікія салаты. Асабліва, напрыклад, калі спалучым мы капусту з морквай, цыбуляй, порамі, свежым ці кіслым агурком, яблыкамі і г.д.

Варачы капусту, мы можам зменшыць колькасць вітамін або нават і цалкам знішчыць у ёй вітаміны. Каб запабегчы гэтаму, нашаткаваную капусту неабходна адразу ж пасля шаткавання класці ў гарачую ваду. Ад тае хвіліны, калі капуста закіпіць, трэба варыць яе 2—3 мінуты, не накрываючы каструльку (разам з парай адыйдзе смак горкіх, часамі непрыемна пахнучых эфірных алейкаў). Тады толькі можна каструльку накрыць і даварваць капусту.

Капусту не трэба варыць аж так доўга, як гэта сабе ўяўляюць некаторыя гаспадыні. Для асенняй капусты дастаткова 18—20 мінут, лічачы ад таго моманту, калі суп закіпіць пасля таго, як мы ўлажылі капусту. Нельга капусту абдаваць варам, адціскаць і адліваць раз закіпеўшай вады. Менавіта тады выліваюцца найбольш каштоўныя яе складнікі. Вітаміны мы знішчаем у капусце таксама, калі задоўга падрыхтоўваем капусту, калі ўжо звараную страву трымаем занадта доўга ў цяпле, калі некалькі разоў падаграваем звараную страву.

З белай капусты можна рабіць шмат вараных страў. У наступным нумары мы падамо некалькі рэцэптаў на іх.

*Гаспадыня*

БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул Кілінскага 10, ёсць у продажы наступныя книгі на беларускай мове:

З Леніным заўсёды Беларусь, 1970, стар. 360, цана 10 зл. 70 гр.

Зборнік складаюць творы паэзіі і прозы беларускіх пісьменнікаў, а таксама пераклады на беларускую мову з іншых літаратур свету, прысвечаныя правадыру Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і заснавальніку першай у свеце дзяржавы рабочых і сялян — СССР.

Рэкамендуем усім школьным бібліятэкам, настаўнікам беларускай мовы, а таксама грамадскім бібліятэкам і індывідуальным пакупнікам.

Александровіч А., Збор твораў у двух тамах, 1963, том I — стар. 424, цана 8 зл. 50 гр., том II — стар. 360, цана 6 зл. 90 гр.

Двухтомнік складаюць лепшыя творы беларускага пісьменніка старэйшага пакалення, які памёр у 1963 годзе. Андрэй Александровіч сваёй творчасцю і грамадскай дзейнасцю на ніве беларускай літаратуры ў 20—30 гады ўнёс значны ўклад ва ўзбагачэнне літаратурнага жыцця ў Беларусі.

Гэтае выданне рэкамендуем грамадскім і школьным бібліятэкам, а таксама ўсім любіцелям беларускай літаратуры.

Кнігарня імпартных выданняў у Беластоку ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем з далучэннем фактураў. Запатрабаванні кіруйце па адрасу:

„Dom Książki", Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

*В. Розін, Л. Сідараў*

# Таварыш „Філбі"

— Коратка — цяжка, але паспрабую, — усміхаецца ён нейкім сваім думкам. — Далес, як вядома, быў першай цывільнай асобай на пасадзе дырэктара ЦРУ. Ён быў уважлівы ў абыходжанні з людзьмі, але па сутнасці ставіўся да іх пагардліва. У справы ён не ўваходзіў, і, я сказаў бы, пры ўсёй яго агрэсіўнасці ён быў дылетантам, аб чым лепш за ўсё сведчыць авантура з уварваннем на Кубу, якая так ганебна правалілася. Лічаць, што ён заняў гэту пасаду дзякуючы свайму брату — Джону Фостэру Далесу, тагачаснаму дзяржаўнаму сакратару.

Цяпер некалькі слоў пра Хелмса. Я стараўся, каб у нас склаліся найлепшыя адносіны. З гэтым чалавекам лёгка працаваць, хоць ён вызначаецца стрыманасцю. Хелмс пораху не вынайдзе, гэта, вядома, не генерал Уэлтар Бедэл Сміт, які займаў некаторы час пасаду дырэктара ЦРУ. Ён больш палітыкан, чым спецыяліст сваёй справы. Як мне сказаў у свой час адзін з супрацоўнікаў ФБР, Хелмс звязан з пэўнай уплывовай палітычнай групай, якая яго ўвесь час падштурхоўвала.

Што датычыць Гувера — гэта сумна вядомы контрразведчык, які кіруе велізарным па размерах апаратам рэпрэсій. Нашы гутаркі з Гуверам насілі часам вельмі цікавы характар, яны зводзіліся да абмеркавання метадаў работы савецкай разведкі. Гэта былі вельмі захапляючыя гутаркі, — з цяжкасцю стрымлівае ўсмешку таварыш Кім.

— Але хто ўжо сапраўды зрабіў на мяне незабыўнае ўражанне, — дадае ён, — гэта намеснік Гувера — містэр Лэд. Гэта на дзіва дрымучая асоба зусім сур'ёзна пераконвала мяне, што былы прэзідэнт Франклін Рузвельт з'яўляўся агентам Камінтэрна!

— Ці шмат краін, акрамя пералічаных, давялося вам наведаць за гэтыя гады?

— Я спецыяльна іх не падлічваў, але набярэцца каля двух дзесяткаў. У кожнай краіне была свая спецыфіка работы, свае ўмовы. Да іх даводзілася прыстасоўвацца. Як разведчык з пэўным стажам, я выдатна ўяўляў сабе магчымасць правалаў, яны падпільноўвалі на кожным кроку. Мне па роду маёй дзейнасці даводзілася планаваць самыя розныя аперацыі супраць Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін і самому ж іх тарпедаваць. Мяне заўсёды падтрымлівала думка аб трываласці, надзейнасці тылу. Я рэгулярна сустракаўся ў розных краінах з прадстаўнікамі Цэнтра, такія сустрэчы былі для мяне вялізнай падзеяй, яны ўлівалі ў мяне новыя сілы. Яшчэ больш важнымі былі паездкі ў Маскву. Я ведаў, што кіраўніцтва высока ацэньвае маю работу, верыць у мяне. Але ўсё роўна, нягледзячы на ўсю маю вытрымку, я вельмі расхваляваўся, даведаўшыся, што мяне ўзнагародзілі ордэнам Чырвонага Сцяга.

Вельмі дапамагала мне ў рабоце і тое, што ў саміх заходніх краінах я на кожным кроку сутыкаўся са шчырымі сябрамі савецкага народа, людзьмі, якія ўсім сэрцам аддадзены сацыялізму. Я бачыў, што гэтыя людзі гатовы ўключыцца ў барацьбу, за бяспеку першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы. Больш таго, сярод супрацоўнікаў разведвальных службаў заходніх краін я ведаю нямала людзей, якія гэтак жа, як і я, прысвяцілі сябе барацьбе з фашызмам, справе інтэрнацыянальнай салідарнасці працоўных. Прычым колькасць такіх людзей няспынна расце.

— Таварыш Кім, ці не можаце вы расказаць крыху пра ваша сённяшняе жыццё?

— Мая работа ў брытанскай сакрэтнай службе праходзіла ў апошні час у надзвычай складаных умовах. Кіраўніцтва прыняло рашэнне з мэтай забеспячэння маёй бяспекі адклікаць мяне ў Савецкі Саюз. I вось я тут. Толькі што закончыў работу над кнігай. У рамках магчымага і разумнага я з пазіцыі разведчыка асвятляю ў ёй асобныя моманты майго жыцця. Многія старонкі кнігі маюць самае непасрэднае дачыненне да пэўных колаў шэрагу заходнееўрапейскіх краін.

Я шмат езджу па неабсяжнай Савецкай краіне, якая стала мне другой радзімай. Следам за гэтай кнігай думаю ўзяцца за другую, а потым напішу яшчэ адну. Планаў шмат, я ж журналіст. У вольны ад работы час займаюся самымі рознымі справамі — ад музыкі да лыжаў і разьбы па дрэве. Хаджу ў тэатры, рэгулярна бываю на канцэртах. Словам, жыву поўнакроўным жыццём. На здароўе не скарджуся.

— Таварыш Кім, апошняе, магчыма, крыху прамалінейнае пытанне: ці шчаслівы вы?

— Большая частка майго жыцця ззаду, азіраючыся на мінулыя гады, я думаю, што пражыў іх недарэмна. Так, я шчаслівы. Мне хочацца ад сябе паўтарыць словы Фелікса Дзяржынскага, рыцара рэвалюцыі, вялікага гуманіста. Памятаеце? «Калі б мне трэба было пачаць жыццё спачатку, я пачаў бы так, як пачаў».

